# Беларускі Звон

ТЫДНЁВАЯ ЧАСОПІСЬ.

**Адрэс рэдакцыі і адміністрацыі:** Вільня, Вострабрамская вул. 9 (Ostrobramska 9). Рэдакцыя адчынена: 12—2 штодня апрача сьвяточных дзён.

Рукапісы павінны быць напісаны чытальна і толькі на адным баку паперы, з праўдзівым прозьвішчам аўтора і адрэсам (для ведама Рэдакцыі). Няпрынятыя ў друк рукапісы назад не вяртаюцца. Аплата надрукованага залежыць ад Рэдакцыі.

**Цана кожнага нумару 30 м.** Падпіска на 3 месяцы каштуе 400 м. (з даст. да хаты). Цана абвестак: перад тэкстам 150 мк., сярод тэксту 200 мк. і на апошняй страніцы 70 мк. за радок пэтыту ў 1 шпальт.

Год II. Вільня. Субота, 1-га красавіка 1922 г. № 10 (35).


## Ад Адміністрацыі.

Нашы падпішчыкі вельмі часта жаляцца на тое, што яны не атрымліваюць нашай часопісі, што па загаду мясцовай улады яе на пошце канфіскуюць.

У гэтай справе мы зьвярнуліся да Дырэктара пошты і тэлеграфу з пытаньнем, ці падуладныя яму паштовыя чыноўнікі маюць права па загаду мясцовай адміністрацыі канфіскаваць якую-колечы карэспандэнцыю?

На гэта нам адказана, што яны гэткага права ня маюць.

Дзеля гэтага ўсіх тых падпішчыкаў, якія атрымоўваюць „Белар. Звон" беспасрэдна з свайго паштовага аддзелу ў межах т. з. „Сродковай Літвы", а чамусьці будуць атрымліваць яго не акуратна, просім паведаміць нас аб гэтым, а мы з свайго боку пастараемся высьніць справу і пацягнуць вінаватых да судовае адказнасьці.

## Перад Гэнуяй.

Мы на пярэдадні Гэнуэскай канфэрэнцыі, якая мае шырокія заданьні, як экономічныя, так і палітычныя.

Трэба пачаць пляновую адбудову зруйнаванай праз вайну Эўропы, галоўным чынам Расеі, Сэрбіі, Польшчы, Румыніі, а потым і Бельгіі, Францыі, Нямеччыны et ceterum —амаль ні ўсіх дзяржаваў, ваяваўшых адна проціў другое.

Трэба памірыць перамогшых з пераможанымі, устанавіўшы паміж імі дабрасусецкія адносіны і мір, у сувязі з чым стаіць вельмі важнае пытаньне аб разбраеньні вялізарных яшчэ вайсковых сіл некаторых дзяржаў, і яшчэ больш важнае пытаньне аб зьмене імпэрыялістычнай і ваяўнічай палітыкі паасобных дзяржаў, якія ніяк ня хоцуць згодзіцца з мірнымі тэндэнцыямі Лігі Народаў.

Калі ісьці яшчэ далей, дык мабыць прыдзецца на канфэрэнцыі не абмінуць і пытаньня аб граніцах, якія дзе-нідзе устанавіліся паміж паасобнымі дзяржавамі бяз волі на то ўсіх тых, хто падпісаваў Вэрсальскі трактат, а таксама і бяз волі Лігі Народаў.

Мабыць, узьнімецца на канфэрэнцыі пытаньне і аб тым, што ёсьць на сьвеце нездаволяныя народы, якія падняволяны сілаю аружжа дужэйшымі суседзямі, падзелены імі на кавалкі і ў сучасны мамэнт у поўным сэнсе слова зудушваюцца ня згоднай ні з якімі законамі констытуцыі і Вэрсальскага дагавору зьвярынай палітыкай.

Здаецца, што не абміне канфэрэнцыя і яшчэ аднаго пытаньня — аб адносінах да савецкіх рэспублік, якія склаліся ў сваю Антанту.

Колькі цяпер гэтых Антантаў?

Вялікая Антанта, Антанта Сярэдняй Эўропы, Прыбалтыцкая Антанта. Ёсьць, здаецца, Балканская Антанта. Антанта Савецкіх рэспублік—так сама. І ўсё гэта толькі ў аднэй Эўропе! І усе гэтыя Антанты стараюцца, хочуць перамагчы, перахітраваць адна адну.

Гэнуя павінна знайсьці выхад з „антанціраваньня" народаў на паасобныя групы.

Добра-б было, каб народы амаль не ўсяго сьвету, якія зьедуцца на канфэрэнцыю ў Гэную, пагадзіліся на тым, што пара кінуць змагацца паміж сабою дыплематычнымі хітрыкамі, аружнаю сілаю і дзіцячымі забавамі ў антанціраваньне ўсіх проціў усіх. Добра-б было, каб Гэнуэская канфэрэнцыя пастанавіла вырашаць усялякія справы, як політычнага, так і эканамічнага характэру, мірнаю дарогаю, праз паміжнародны трыбунал.

Нам думаецца, што тыя аграмадныя затраты, якія ўвесь сьвет нясе ад войнаў і іншых „нелегальных" спосабаў змаганьня народаў, куды сталі-б меншымі, каб розныя споркі вырашаліся мірнаю дарогаю. З другога боку вырашэньне справы такім паміжнародным трыбуналам было-б заўсёды куды справедлівейшым, чым вайною і г. д., бо вайна заўсёды скрыўджавае адну з старонаў, што вядзе да новай вайны.

Ёсьць надзея, што Гэнуэская канфэрэнцыя, калі не вырашыць гэтага пытаньня аканчальна, то прыблізіць яго вырашэньне у пажаданым сэнсе.

Ш.

Просім шаноўных падпішчыкаў, тэрмін падпіскі якіх скончыўся, прысылаць грошы, бо у праціўным разе высылка газэты будзе затрымана.

**АДМІНІСТРАЦЫЯ.**

## Пасьля сьвята.

Сёлетняе сьвяткаваньне чацьвертых угодкаў абвешчаньня незалежнасьці Беларускае Народнае Рэспублікі адбывалася ў нязвычайную часіну: яно зышлося з мамэнтам, калі—сьледам за Горадзеншчынай і заходняй часткай Меншчыны—і над беларускай Віленшчынай запанавала ўжо зусім *офіцыяльна* ўлада Польшчы.

Ня будзем загадаваць напярод, ці створанае рыскім мірам і захватам Віленшчыны генэралам Жэліговскім палажэньне будзе моцным і трывалым: рыскі мір і „чын" ген. Жэліговскага дагэтуль вялікімі дзяржавамі ня прызнаны... Будзем у гэты мамэнт лічыцца з фактам поўнага запанаваньня Польшчы над усей безразьдзельна Заходняй Беларусяй. І калі ўспомнім аб усіх тых страшэнствах, якія польская ўлада вычварае над беларусамі на абшарах Горадзеншчыны і Наваградчыны, калі ўспомнім, што пад Польшчай для беларускага народу канстытуцыя ня існуе, і мы, адвечныя жыхары гэтае зямлі, ў сваім родным краю знаходзімся ў палажэньні бяспраўных «інародцаў»,—дык невясёлыя думы родзіць у беларусаў Віленшчыны гэткае „аб'яднаньне" ўсіх зямель Заходняе Беларусі...

Беспрасьветнасьць, барацьба за самы нацыянальны быт беларускага народу, барацьба з вялізарнай сілай польскага гаспадарства, польскае бюрократыі і польскага арганізаванага грамадзянства—вось гороскопы на найбліжэйшы час для беларусаў Віленшчыны. І ў той самы мамэнт, калі яны перад намі адкрываюцца ў-ва ўсенькай сваей панурай нагаце,—віленскае беларускае грамадзянства сабралася сьвяткаваць дзень вялікага нацыянальнага сьвята.

Дый не адны беларусы сьвяткавалі гэты вялікі дзень вызваленьня беларускага народу з адвечных путаў рабства. На іх прызыў горача адгукнулася ўся запраўдная дэмакратыя нашага краю—літоўская, жыдоўская і навет.. польская. Гэтак дзень беларускага **нацыянальнага** сьвята як-быццам абярнуўся ў сьвята **краёвае**—сьвята **аб'яднаньня краёвых дэмакратычных сілаў.**

Запраўды, не адна толькі прыхільнасьць да беларусаў, не адзін толькі спогад нашым імкненьням да волі і незалежнасьці Бацькаўшчыны сабраў за адным сталом лепшых прадстаўнікоў краёвае дэмакратыі ўсіх нацыянальнасьцей: вяло іх на беларускае сьвята йшчэ і нешта другое,—нешта такое, што ў гэты мамэнт мае мо' шмат вялікшую вагу і значэньне, чым міжнацыянальныя выяўленьні братняга пачуцьця. Вяла іх сьвядомасьць, што ў гэты мамэнт, больш чым калі, дэмакратыя гэтага краю павінна гуртавацца разам дзеля супольнае абароны ад дзікога, зьвярынага нацыяналізму новых нашых валадароў.

Усе мы памятаем тыя цяжкія часы, калі над народамі Расеі зьдзекавалася маскоўскае хамства ў мундзірах і бяз мундзіраў. Мы памятаем, якую вагу мела тады еднасьць і салідарнасьць уціснаных нацыянальнасьцей і тэй часьціны праўдзівае маскоўскае дэмакратыі, якая пакутавала нароўні з „інародцамі". Мы бачылі ўрэшце, якую ролю адыгралі гэныя-ж „інародцы" ў разбурэньні ўсяго вялізарнага гмаху самадзяржаўнае Расеі.

Цяпер, пад Польшчай, мы павінны асаблівую ўвагу зварачаць на тое, чаго вучыць мінуўшчына. Цяпер еднасьць і салідарнасьць усіх «інародцаў», для каторых у Польскай дзяржаве „закон ня пісаны",—гэта адзіны спосаб ратунку ад поўнага нацыянальнага вынішчэньня іх,—тым больш, што, на вялікі жаль, мы як быццам зусім ня бачым такой польскай дэмакратыі, якой была дэмакратыя маскоўская. Праўда, ёсьць між палякамі запраўды дэмакратычна настроеныя адзінкі, якія разумеюць, што ўсялякі гвалт і уціск над аднэй часткай насяленьня—над „інародцамі"—узаконівае гвалты ўлады і над самым польскім народам. Ды гэта **толькі адзінкі**: бо ў варшаўскім сойме няма такое партыі, якая падняла-бы свой голас проці нячуванага ўціску беларускага народу; бо навет „соцыялісты" ў Польшчы вядуць салідарную з крайнімі нацыяналістамі работу дзеля ўмацаваньня польскага элемэнту „na kresach"...

Але чым цяжэйшыя варункі барацьбы падпаўшых пад Польшчу народаў за іх быт і волю, тым цясьней павінна гуртавацца ўся „інародная" дэмакратыя, не абмяжоўваючыся урачыстымі дэклярацыямі аб еднасьці і салідарнасьці, але ідучы нага ў нагу ў штадзенным жыцьці, ў штадзеннай працы. „Інародцы" ў Польшчы павінны рахаваць толькі на сябе і на свае сілы, ведаючы, што іх балячкі, іх доля—нядоля нікога асабліва трывожыць ня будуць.

Няхай-жа дзень 25 сакавіка сёлетняга году будзе парукай, што «пануючая нацыя» ў сваім імкненьні зьніштожыць у межах Польскае Рэчыпосполітае беларускую нацыянальнасьць сустрэне дружны адпор усіх „інародцаў", бо тое, што сёньня робіцца з беларусамі, заўтра пагражае і жыдам, і літвінам, і украінцам, і другім...

**Ярашэўскі.**

## З ПРЭСЫ.

### Праўда аб беларусах.

Крык крыўды заходняй Беларусі у сучасным яе змаганьні за правы свайго бытаваньня далятае да некаторых кругоў польскага грамадзянства. Так п. Лясота у газ. „Wilen. Kurjer Poświąteczny", бадай у кожным нумары знаеміць польскае грамадзянства з жыцёвасьцяй і праватой беларускага руху. У № 12 п. Лясота піша аб беларусох.

„За апошнія некалькі гадоў — ад лятункаў колькіх інтэлігентаў, ад пісаньня «дзеля пробы» вершыкаў—дайшлі да магчымасьці вясьці плянова працу ў усіх галінах грамадзка-нацыянальнага жыцьця. Некалькі гад ў працы (а гэты час мала знача ў гісторыі)—у абставінах бязупыннага бязладзьзя, няпэўнасьці ў заўтрашнім, ліхадзейнасьці вайны, зьмены ўлад, зьмены адносін да беларускага руху, руйнаваньні і насільная ліквідацыя з мазалём збудаванага—далі нечаканыя вынікі, якія сьведчаць аб жыцьцёвасьці руху, аб яго гістарычнай будучыне".

Разглядаючы далей заваеваньня ў прасьветным і эканамічным жыцьці беларусаў і падчырківаючы нясумленную палітыку Польшчы ў адносінах да беларускага руху, п. Лясота заканчывае:

„Адарвалі мы іх (беларусоў) ад супа-

койнай працы ў каапэратывах, у школах' у драматычных гурткох... маем іх па вастрогах“.

---

## Часовыя ўдачы.

Газэта „Przegląd Wileński“ у № 11—12 у перадавіцы пад загалоўкам „Pozorne sukcesy“ піша:

„На гледзячы на часовыя трыумфы, якімі апошнія часы гардзяцца польскія дыплёматы, як умова з балтыцкімі дзяржавамі і саюз з Румыніяй, унутраное становішча Польшчы нельга прымаць за доўгавечнае і моцнае“.

Газэта ня верыць у часовыя ўдачы Польшчы і падчырківая істнаваньне тых прычын, якія калісь давялі да упадку Польшчу. Газэта пераконана, што для дзяржаўнай моцы Польшчы патрэбны этнаграфічныя граніцы Польшчы, а не яе „Mocarstwowe pretensji“ і „aspiracji polityczne, sięgające daleko na wschód i na zachód“,

„Шукаючы саюзнікаў у латышох, эстончыках і фінляндчыках Польшча адначасна ствараe сабе заўзятых ворагаў у літвінох, украінцах і беларусох, каторыя зусім не зацікаўлены ў істнаваньні вялікай Расеі, але адчуваючы уціск з боку Польшчы будуць шукаць разгадкі сваіх нацыянальных пытаньняў у цясьнейшых зносінах з Расеей“.

Далей аўтар артыкулу паказвае беспляновасьць і непастаянства ў польскай палітыцы, якія «nie omieszkają kiedyś srodze się pomścić».

І прыводзіць прыклады.

„Вільня і Сялезія павінны належаць да Польшчы з погляду этнографічнага, Усходняя Галіцыя з погляду гістарычнага, Гданск з поглядаў эканамічных і гандлёвых, Палесьсе і Валынь з поглядаў эканамічных і гаспадарчых, калідор беларускі з погляду стратэгічна—палітычнага. Адным словам усе гэтыя аргумэнты падобны на апраўданьня typowego kauzyperdy, які заўладаў маемасьцяй нелегальнай дарогай“.

Газэта лічыць за абмылку, што Польшча, апіраючыся на сілу штыкоў і гармат, недацэнівае духоўнай моцы і значэньня нацыянальных рухаў.

# Што чувацъ у сьвеце?

### Каля Гэнуэскай канфэрэнцыі.

Хаўрусныя дзяржавы вынясьлі пастанову запрасіць на Гэнуэскую канфэрэнцыю Раду Лігі Народаў у поўным яе складзе (П. А. Т.).

### Камісары Лігі Народаў.

У зьвязку пытаньня абароны правоў меншасьцёў Ліга Народаў прапануе выслаць сваіх камісараў на землі з мешаным насяленьнем. Гэтыя камісары прышлюць у Лігу допісы з пералічанымі зьдзекамі і уціскамі.

### Хвароба Леніна.

Чуткі аб хваробе Леніна пацьверджаюцца. Здароўе Леніна да таго пагоршала, што ён зняў з сябе ўсе абавязкі у дзяржаўным кіраўніцтве.

### Новыя савецкія грошы.

На грашовых рынках паявіліся новыя савецкія 100 рублёўкі, выпушчаныя у 1922 годзе. Вартасьць гэтай сторублёўкі роўна аднаму мільёну ранейшых савецкіх грошы.

### Забастоўка друкароў.

У Львове цягнецца вялікая забастоўка друкароў. Вядуцца перагаворы між дэлегатамі рабочых і прадпрыемцамі, але да жадных вынікаў не давялі з прычын упартага становішча прадпрыемцаў.

### Exposé п. Панікоўскага.

На апошнім паседжаньні варшаўскага Сойму старшыня міністраў Панікоўскі апавясьціў вялікае exposé. Многа ўвагі было ахвяравана пытаньню Віленшчыны, апошняя згодна з пастановамі віленскага сойму павінна быць далучана да Польшчы, але на падставе двух староннага акту і пры за хаваньні пэўнай аўтаноміі, каб Польшчу не вінавацілі ў «імпэрыялізме», анэксыйнасьці.

### Польская пазычка.

З Лёндану польская прэса падае вестку, што Англія пазычае Польшчы 15 мільёнаў фунтаў штэрлінгаў.

(Впэрэд).

### Арышты ў Петраградзе.

Арыштавана яшчэ 82 сацыялісты, якіх абвінавачываюць у антысавецкай рабоце.

### Будуць бараніць.

Чычэрын заявіў, што дэлегацыя савецкая на Гэнуэскай канфэрэнцыі будзе бараніць ад закідаў савецкі лад у Расеі, сувэрэннасьць правоў і эканамічнае заваеваньня саветаў. (А. В.).

### Фінансовае становішча Польшчы.

Міністар Міхальскі зрабіў даклад у Сойме а фінансавым становішчы Польшчы. Ўнутраньні доўг складаецца з 251 мільярдаў марак. Зацягнуты доўг быў выдаткаваны: 60 прац. на аправізацыю, 28 прац. на узбраеньне, 8 прац. на арганізацыйныя дзяржаўныя выдаткі і г. д.

### Савецкая Антанта на Ўсходзе.

У Ангоры ў сучасны мамэнт знаходзіцца 5 савецкіх пасольстваў Усходніх рэспублік: Украіны, Крыма, Бухары, Аўганістана і Азербейджана. Пасольствы гэтыя вядуць ажыўленыя перагаворы аб стварэньні агульнага саюзу гэтых шасьцёх савецкіх рэспублік з Турцыяй. Будучы саюз будзе выражаць вялікі нахіл да сав. Расеі. Такім чынам Гэнуэская канфэрэнцыя можа апынуцца перад фактам савецкай Антанты на Ўсходзе.

### Кнафэрэнцыя ў Рызе.

У Рызе адчынілася канфэрэнцыя Балтыцкіх дзяржаў з удзелам Польшчы і Расеі. Мэтай канфэрэнцыі—стварэньне міру.

### Замах на Мілюкова.

На прадстаўніка расейскіх кадэтаў Мілюкова быў зроблен маск. манархістамі замах. Забітым застаўся Набокаў, быўшы пасол у Англіі, й яшчэ адзін лідэр к.-д.

### Віленскае пытаньне.

Літоўскі урад маецца падняць віленскае пытаньне на гэнуэскай канфэрэнцыі. Прадстаўнікі Расеі падчыркнуць значэньне Віленшчыны, як мосту між Нямеччынай і Расеяй і выкажуць пратэст супроць польскіх пратэнсіі на гэтыя абшары.

### Старшыня польскай дэлегацыі ў Гэнуі.

Старшынёй польскай дэлегацыі ў Гэнуі будзе мін. Скірмунт.

## Літоўскія справы.

— У Коўні адбыўся зьезд жыдоўскіх гмін у Літве.

— Ірляндыя прызнала незалежнасьць Літвы.

— У сойме пасьля другога чытаньня прыняты 13 арт. літоўскай канстытуцыі.

Урадовай мовай згодна з 5 арт. будзе толькі літоўская.

---

## Украінскія справы.

### За Букавіну.

У Вене нядаўна рэарганізавалася і пачала зноў вызваляючую працу „Букавінская Дэлегацыя Украінскай Нацыянальнай Рады“. Як праўны абаронца украінскай часьціны Букавіны зьвярнулася да насяленьня, надзеячыся на хуткае вызваленьне і выслала ноту да Лігі народаў з жаданьнем звальненьня укр. часьціны Букавіны ад румынскай акупацыі.

(Впэрэд).

---

### Украінцы ў Амэрыцы.

У Нью-Ёрку 22 студня украінцы зрабілі тры дэманстрацыі для пратэсту супраць рэжыму ў Усходняй Галіччыне.

Запыніўшыся перад польскім консульствам дэманстранты аблілі бэнзінам і спалілі сярод розных выгукаў польскі штандар.

Пасьля гэтага дэманстранты зьнялі шапкі і сьпеялі украінскі і амэрыканскі гымны. Амэрыканская прэса шырока распаўсюжвае весткі аб гэтай дэманстрацыі й удзеляе вялікую ўвагу украінскаму жыцьцю у Усх. Галіцыі.

(Впэрэд).

---

Францішк Аляхновіч.

# ШЧАСЬЛІВЫ МУЖ

камэдыя ў 4 актах.

АСОБЫ:

**Гаўдэнт Залепка.**
**Магдалена**, яго жонка.
**Фэлька**, яе прыяцелька.
**Ільдэфонс Мацальскі.**
**Панна Уршуля.**
**Калістрат Мяшочак.**
**Мяшочыха**, яго жонка.
**Леокадыя**, іх дачка.
**Пышка.**
**Шышка.**
**Лапурка.**
**Галька**, яго жонка.
**Мар'янка.**

.......

### АКТ І.

Рэч дзеецца ў квартэры Залепкаў. На сцэне ложак, перад ім параванчык, далей камода, канапа, стол, крэслы і г. п. Праз адчыненыя пасярэдзіне дзьверы відаць стол пакрыты настольнікам і застаўлены бутылькамі, талеркамі і г. п. Другія дзьверы ўправа ў кухню.

**Зьява 1.**

**Гаўдэнт і Магдалена.**

**Гаўдэнт** (чэлавек немалады, лысы, вусасты, сядзіць ля століка. Твар яго намазаны мылам. На століку люстэрка, — Гаўдэнт голіцца).

**Магдалена** (у другім пакоі парадкуе на стале талеркі. Пасьля ўваходзіць на сцэну). Вось!—якраз знайшоў час галіцца! Зараз ужо пачнуць зьбірацца госьці, а ён сядзіць, як налпа, вымазаны мылам! Фу!

**Гаўдэнт**. Не было калі, коцік-Магдзя!.. Але я хутка,—толькі ты не крычы, калі ласка, бо рука ў мяне дрыжыць, парэжуся.

**Магдалена**. Скажы мне, нашто ты накупіў гэтулькі гарэлцы?!.. Каб хаця адну бутэльку віна, а то толькі гарэлка!

**Гаўдэнт**. Для баб ёсьць салодкая.

**Магдалена** (дразьнячы яго). Але! „Для баб! для баб!..“ А вось можа прыйдзе нейкі... лепшы госьць, тады што яму дасі?

**Гаўдэнт**. Для мужчын ёсьць спіртус і гарэлка.

**Магдалена**. Ты зноў сваё: гарэлка!.. Дурны!.. Але я кажу, калі прыйдзе раптам якая рыстакратычная асоба, што тады?

**Гаўдэнт**. Ня прыйдзе, коцік! Я гэтакіх не прасіў.

**Магдалена**. Дурны, як бот. А вось **можа** й прыйдзе!

**Гаўдэнт** (да сябе). А чорт! брытва тупая... (да жонкі). Не, Магдзя-коцік, ня прыйдзе.

**Магдалена**. А вось ты ня ведаеш! А я кажу, што можа прыйсьці. Справа ў тым, што да Фэлькі падлабуніваецца адзін граф і яна мне казала, што ён хоча разам з ёй сюды прыйсьці.

**Гаўдэнт** (вельмі зьдзіўлены). Граф!!

**Магдалена**. Ага! Вось разьзяўляй цяпер рот!.. Ты думаў, што на мае імяніны павінны зьбірацца толькі розныя шаўцы ды краўцы ды твае сябры пьяніцы. А вось можа прыйсьці й чэлавек з вышэйшага сьвету.

**Гаўдэнт**. Але лепш было-б, коцік, каб была свая кумпанія... Выпілі-б, паскакалі... А то гэтакі граф дык ён як пачне зараз праз нос барматаць: он-он! сон-сон! — а чэлавек нічагусенькі не разумее.

**Магдалена**. Дурны не разумее. А я вось разумею... Ну, ведама, ня ўсё, але шмат разумею... (ходзіць падскакваючы па сцэне і пяе пад нос). Жэ ву зэм, жэ ву задор, ком ле ш'ен, кі э мор!..

**Гаўдэнт** (зьдзіўлены). А гэта-ж як? што-ж гэта значыць?

**Магдалена**. А вось: ты ня ведаеш, а я ведаю! (як выш.). Жэ ву зэм, жэ ву задор...

**Гаўдэнт**. Жывы сэм, жывы задор... Які гэта задор?

**Магдалена**. Гэта значыць: я вас люблю больш чымсь жыцьцё сваё... Ну, але ты хутчэй ідзі купі віна, бо скора ўжо мабыць госьці пачнуць зьбірацца.

**Гаўдэнт** (голіцца). Зараз, я толькі, коцік, кончу... Я ўжо зараз.

**Магдалена**. Ня трэба канчаць, і так добра будзе.

**Гаўдэнт**. Але як-жаж так, Магдзя! Поў барады аголена...

**Магдалена**. Пасьпееш пасьля агаліцца, як прыдуць госьці: сядзеш сабе ў кухні і ніхто табе ня будзе перэшкаджаць... (крычыць). Ну, чуеш, ці не? Зараз ідзі, а то крамы зачыняць!

**Гаўдэнт** (ад яе крыку ўздрыгнуў). Ай!.. у! чорт, парэзаўся!.. А я-ж прасіў цябе, коцік, не крычаць, бо рука дрыжыць (абцірае твар ручніком).

**Магдалена**. А я табе даўно ўжо казала: ідзі! Каб паслухаўся, дык-бы й не парэзаўся... Чакай, я табе дам плястар. (Ідзе да камоды, выймае чорны плястар, адрэзвае кусок і дае мужу).

**Гаўдэнт** (перад люстэркам заклейвае сабе парэзаную частку твару).

**Магдалена**. Ну, хутчэй-жа! хутчэй!

Чуваць званок за сцэнай.

**Магдалена** (ўсхапіўшыся). Ах! нехта ўжо прыйшоў! (выбягае праз сярэднія дзьверы).

**Гаўдэнт** (апранаецца і бармоча пад нос). Жыві сам, жыві задор... Карнішон, кілёмэтр!.. (глядзіць у люстэрка).

**Зьява 2.**

**Гаўдэнт, Магдалена, Фэлька.**

**Магдалена** (уваходзячы з Фэлькай). Прыгожы, прыгожы, няма што глядзець!.. Ну, бойся-ж Божа! Калі-ж ты нарэшце пойдзеш?..

**Фэлька** (падае руку Гаўдэнтаму). Добры вечар, пан Гаўдэнт!

**Гаўдэнт** (да Фэлькі). Добры вечар... (да жонкі). Іду ўжо, пабег ужо, толькі ты, коцік, не крычы!.. (пайшоў праз кухню).

**Магдалена** (яму ў сьлед). Толькі памятай: добрага, загранічнага, францускага!..

**Зьява 3.**

**Магдалена, Фэлька.**

**Магдалена** (да Фэлькі). Ну, ну? чаму не прыйшоў?

**Фэлька**. Я бачылася з ім сягоньня... Казаў, што напэўна прыйдзе, але крыху пазьней, бо мае якуюсь важную справу... Але, ведаеш? тады, як я была з ім у кінэматографе і мы спаткаліся з табой, я пасьля тады сказала яму ўсё. А ён кажа: „у мяне заўсёды так; адзін раз у Парыжы—кажа—адна графіня так была ўва мне закахаўшыся, што з свайго бальконy скокнула проста ў мора і ўтапілася...“ Га, які фанфароністы!

(Працяг будзе).

